

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***

# НАША СЛОВА.pdf



**Трэці год выдання** **№ 4 (108) 24 студзеня 2024 г.**


## Тыдзень малітваў аб адзінстве хрысціянаў: любіць Бога і бліжняга




18 студзеня ў Касцёле распачаўся Тыдзень малітваў аб адзінстве хрысціянаў. Пра гэта на заканчэнне агульнай аўдыенцыі, якая прайшла напярэдадні ў Ватыкане, нагадаў Папа Францішак.

Як паведамляе Беларуская рэдакцыя парталу Vatican News, сёлетні Тыдзень малітваў аб адзінстве хрысціянаў прысвечаны тэме: "Любі Пана Бога твайго і любі бліжняга свайго, як самога сябе".

- Я заклікаю вас маліцца, каб хрысціяне дасягнулі поўнага адзінства і аднадушна сведчылі любоў да ўсіх, асабліва да самых уразлівых,- заахвоціў вернікаў Папа Францішак.

Каталіцкі Касцёл удзельнічае ў штогадовай ініцыятыве Тыдзень малітваў аб адзінстве хрысціянаў ужо больш за пяцьдзясят гадоў. Хрысціянскія цэрквы і супольнасці праводзяць яго кожны год з 18 па 24 студзеня.

Сёлета матэрыялы для правядзення Тыдня падрыхтавала экуменічная група з Буркіна-Фасо разам з мясцовай супольнасцю Chemin Neuf - "Новы шлях".

Сёлета хрысціянская меншасць Буркіна-Фасо "перажывае вельмі складаную сітуацыю пераследу і гвалту", - адзначыў супрацоўнік Дыкастэрыі спрыяння хрысціянскаму адзінству ксёндз Хуан Усма Гомэс.

У гэты час таксама ў дыяцэзіях Касцёла на Беларусі традыцыйна адбываюцца экуменічныя набажэнствы з удзелам прадстаўнікоў традыцыйных хрысціянскіх веравызнанняў нашай краіны.

***Паводле: Vatican News / Catholic.by.***

## У Менску біскуп Касабуцкі цэлебраваў Імшу аб адзінстве хрысціянаў, а арцыбіскуп Станеўскі ўзначаліў экуменічнае набажэнства




20 студзеня ў межах Тыдня малітваў аб адзінстве хрысціянаў у катэдральным касцёле Найсвяцейшага Імя Марыі ў Менску Мітрапаліт Менска-Магілёўскі арцыбіскуп Юзаф Станеўскі ўзначаліў экуменічнае набажэнства.

У супольнай малітве, да якой далучыўся Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Антэ Ёзіч, узялі ўдзел прадстаўнікі некаторых традыцыйных хрысціянскіх канфесій нашай краіны.

Перад набажэнствам Генеральны вікарый Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскуп Юрый Касабуцкі ўзначаліў цэлебрацыю святой Імшы ў галоўнай святыні сталіцы.

- Мы молімся аб гэтым адзінстве, якога, як мы ведаем, у рэальнасці няма: ёсць розныя канфесіі, ёсць розныя хрысціянскія супольнасці, дэнамінацыі. Мы парознаму ўспрымаем розныя праўды веры, розныя традыцыі. Але мы молімся, каб усе мы мелі адно сэрца, бо ўсе мы молімся аднаму Богу, праслаўляем таго самага Хрыста.

*(Працяг на стст. 2-3.)*





# У Менску біскуп Касабуцкі цэлебраваў Імшу аб адзінстве хрысціянаў, а арцыбіскуп Станеўскі ўзначаліў экуменічнае набажэнства

*(Працяг. Пачатак на ст. 1.)*

- Таму падчас гэтай Імшы я асабліва малюся аб еднасці хрысціянаў, аб еднасці ў нашай краіне паміж прадстаўнікамі розных канфесій і рэлігій, аб еднасці ў нашых сем'ях і аб адзінстве паміж усімі намі, - сказаў на пачатку цэлебрацыі іерарх.

У прамоўленай гаміліі біскуп Касабуцкі перадусім адзначыў, што "калі мы кажам пра адзінства хрысціянаў, мы звяртаем увагу на тое, што мы перш за ўсё павінны мець Духа Хрыстовага, Духа Божага ў нашым сэрцы". Разважаючы на падставе біблійных чытанняў пра навяртанне, іерарх сцвердзіў, што яно дае свой плён у хрысціянскім жыцці. Малітва аб адзінстве хрысціянаў, паводле яго, павінна быць спалучана з імкненнем да навяртання і перамены жыцця, што неабходна кожнаму верніку.

- Таксама і для нас гучыць гэты заклік <…>, каб змяніць штосьці ў сабе і старацца набрацца гэтага Духа Хрыстовага, Духа Божага, які дазваляе нам убачыць у іншым чалавеку брата, які дазваляе нам палюбіць іншага чалавека такім, які ён ёсць, з яго слабасцямі, недахопамі; прабачыць іншаму чалавеку… Бо гэта - першыя крокі, якія вядуць да адзінства, - сцвердзіў біскуп Юрый Касабуцкі.

Пасля заканчэння святой Імшы да алтара ў працэсіі з крыжам выйшлі ўдзельнікі экуменічнага набажэнства на чале з арцыбіскупам Станеўскім. Звярнуўшыся да сабраных у катэдры вернікаў розных канфесій, сярод якіх былі таксама прадстаўнікі дыпламатычнага корпусу, арцыпастыр паведаміў, што дэвізам сёлетняга экуменічнага тыдня сталі словы з Евангелля паводле Лукі: "Любі Пана Бога твайго <…>, а бліжняга свайго, як самога сябе" (Лк 10, 27). Іерарх дадаў, што матэрыялы для экуменічных малітваў былі падрыхтаваныя хрысціянамі з Буркіна-Фасо ў Афрыцы.

- Гасцям, стомленым падарожжам, там падаюць ваду, каб яны маглі наталіць смагу і абмыць запылены твар. Вітаючы вас, браты і сёстры, мы ахвяруем вам жыватворчую ваду нашай любові і ачышчальную ваду супольнай малітвы.

Сэрцам нашай малітвы з'яўляецца прыпавесць пра міласэрнага самараніна, у якой мы чуем Божы заклік аб любові да Бога і да бліжняга. Давайце падрыхтуемся да сустрэчы з Богам Любові, праславім Яго і падзякуем Яму,- запрасіў удзельнікаў экуменічнага набажэнства арцыбіскуп Станеўскі.

Пасля гэтага адбылася малітва праслаўлення і падзякі, а потым - чын пакаяння. Усе разам прысутныя ў катэдры супольна ўзнеслі малітву "Святы Божа, святы моцны, святы несмяротны, змілуйся над намі", і выслухалі




біблійныя чытанні. Пасля евангельскай прыпавесці пра добрага самараніна да прысутных звярнуліся прадстаўнікі розных хрысціянскіх канфесій.

Першым прамовіў найстарэйшы ўдзельнік экуменічнага набажэнства, Апостальскі адміністратар каталікаў візантыйскага абраду ў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек. Святар зазначыў, што прыпавесць Хрыста звяртае ўвагу вернікаў на любоў да Бога і да бліжняга - "блізкага і далёкага".




- Сёння молімся словамі: "Пане, адкрый нашыя сэрцы для тых, каго мы не заўважаем". Сапраўды, патрэбна, каб Бог адкрыў нашыя вочы і нашыя сэрцы. Дзякуй Богу, хрысціяне, у тым ліку і ў нашай краіне, Беларусі, робяць шмат, каб заўважыць і адрэагаваць на патрэбы бліжніх: патрэбы матэрыяльныя.

Але застаецца шырокае поле, на якім можна паклапаціцца пра духоўныя патрэбы нашых бліжніх. Поле, на якім можам несці ім Божае слова: слова Божае запісанае ў Бібліі; слова Божае, пра якое мы павінны сведчыць нашымі ўчынкамі і справамі, - сказаў кіраўнік Грэка-Каталіцкай Царквы ў Беларусі. Ён нагадаў, што наступная нядзеля ў Каталіцкім Касцёле з'яўляецца





нядзеляй Божага Слова, і адзначыў, што гэта нагода паўней выкарыстоўваць экуменічны патэнцыял Святога Пісання.

Пастыр Евангельска-Лютаранскай супольнасці з Гародні Уладзімір Татарнікаў у сваёй прамове падкрэсліў важнасць супольнай малітвы хрысціянаў "адно з адным і адно за аднаго". Ён звярнуў увагу на тое, што менавіта любоў і прабачэнне займаюць у гэтым цэнтральнае месца.

Прадстаўнік Біблійнага таварыства ў Рэспубліцы Беларусь Аляксандр Камінскі зазначыў, што гэтае таварыства існуе перадусім дзеля міру, які ўсім людзям нясе Божае слова. Паводле яго, у час, калі паміж людзьмі так шмат варажнечы, малітва аб любові і адзінстве мае вялікае значэнне.

Аляксандр Камінскі падзяліўся сваёю мараю аб тым, каб людзі ва ўсім свеце селі за стол перамоваў і прыйшлі да міру.

Памочнік біскупа Аб'яднання супольнасцяў хрысціянаў поўнага Евангелля ў Беларусі пастыр Валерый Шэйбак, у сваю чаргу, з горыччу заўважыў, што сёння паміж хрысціянамі розных веравызнанняў яшчэ шмат непаразуменняў і ўзаемнага недаверу. Паводле яго, неабходна шырэй глядзець на Царкву Хрыстову для дасягнення адзінства, якое "пачынаецца з братэрскага прыняцця".

Нарэшце, да прысутных звярнуўся арцыбіскуп Станеўскі. Каталіцкі іерарх перадусім узгадаў словы апостала Паўла пра любоў, якая "не чыніць бліжняму зла" і "ёсць выкананнем Закону". Паводле арцыпастыра, прыпавесць пра міласэрнага самараніна заахвочвае ўсіх хрысціянаў клапаціцца пра кожнага, хто знаходзіцца ў патрэбе.




- Браты і сёстры, мы вучымся, бо экуменізм, сённяшняя малітва аб еднасці хрысціянаў - гэта навука ад Бога. Не адмаўленне ад праўды, а пошук праўды. Гэта барацьба за праўду, якая, урэшце, вызваліць нас ад таго, што падзяляе, - сцвердзіў арцыбіскуп Юзаф Станеўскі.

Асабліва кранальным момантам экуменічнага набажэнства стала супольная малітва "Ойча наш", калі ўдзельнікі ўзяліся за рукі на знак агульнага імкнення да адзінства ўсіх вызнаўцаў Хрыста - "каб усе былі адно".

***Паводле: Catholic.by.***

# "Святое Васілле" ў Лідзе

Лідскі аддзел рамёстваў і традыцыйнай культуры 20 студзеня правёў імпрэзу "Шчадрэц" - "Святое Васілле".

Наведвальнікі мерапрыемства атрымалі магчымасць убачыць калядны абрад "Шчодра", пазнаёміцца з традыцыйнымі каляднымі стравамі «Тры куцці», стаць удзельнікамі каляднай абрадавай гульні "Яшчур", убачыць лялечны тэатр "Батлейка", а таксама, далучыцца да сапраўдных варожбаў і гульняў, атрымаць асалоду ад традыцыйных народных спеваў, пабытавых танцаў і калядных карагодаў.





У праграме прынялі ўдзел народны фальклорны гурт "Талер", народны лялечны тэатр "Батлейка" і іншыя калектывы.

***ТК “Культура Лідчыны”.***





# Алесю Якімовічу - 120 гадоў

17 студзеня споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння беларускага пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Алеся Якімовіча (1904-1979).

Алесь Якімовіч нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Старэйшы з шасцярых дзяцей, ён памагаў бацькам па гаспадарцы. Скончыўшы Вышэйшае пачатковае вучылішча ў мястэчку Узда і двухмесячныя настаўніцкія курсы, вучыўся ў Белпедтэхнікуме. У студэнцкія гады фарміраваліся яго светапогляд і талент. Разам з ім займаліся Андрэй Александровіч, Пятро Глебка, Паўлюк Трус, а методыку роднай мовы выкладаў Якуб Колас, які клапатліва ставіўся да пісьменнікаў-пачаткоўцаў. Неўзабаве малады літаратар стаў сябрам літаратурнай арганізацыі "Маладняк" (1923), працаваў адказным сакратаром рэдакцыі новага часопіса для школьнікаў "Беларускі піянер" (1924). З 1927 года Алесь Якімовіч займаўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педфака БДУ, якое скончыў у 1930 годзе. Вучобу ва ўніверсітэце сумяшчаў з абавязкамі рэдактара часопіса "Іскры Ільіча". Некаторы час працаваў сакратаром педагагічнага часопіса "Асвета", выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў вячэрнім Тэхнікуме вогнетрывалага будаўніцтва. У 1934 годзе быў дэлегатам Першага з'езда савецкіх пісьменнікаў.

У пачатку Другой сусветнай вайны быў у эвакуацыі, працаваў настаўнікам у адной з сярэдніх школ г. Чыстапаля (Татарская АССР), адказным сакратаром раённай газеты ў сяле Шаманаіха Казахскай ССР. Адтуль у 1942 годзе ён быў накіраваны на курсы малодшых лейтэнантаў у г. Андзіжан, затым - на фронт. Пад Харкавам у 1943 годзе быў паранены. Пасля выхаду са шпіталя пэўны час жыў у Маскве, займаўся рэдактарскай працай. Пасля вайны працаваў старшым рэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР, літкансультантам Саюза пісьменнікаў Беларусі.



Пачатак творчасці Алеся Якімовіча прыпадае на 1920-я гады - перыяд станаўлення беларускай дзіцячай літаратуры. Вершы пачаў пісаць падчас вучобы ў Белпедтэхнікуме. Першае выступленне ў друку - верш "Вясна", надрукаваны ў 1923 г. у часопісе "Маладняк". У 1925 годзе выйшлі першыя кнігі Алеся Якімовіча: "Вершы" і зборнік апавяданняў "Гул бубна", у якіх расказвалася пра жыццё дзетвары. Пазней выходзяць у свет аповесці, апавяданні, вершаваныя казкі. Алесь Якімовіч быў адным з пачынальнікаў тэмы заходнебеларускага жыцця ў дзіцячай літаратуры (апавяданне "Апоркі"). Значная частка апавяданняў пісьменніка, яго аповесць "Смелыя людзі", прысвечаны гераізму юных барацьбітоў у гады Другой сусветнай вайны. Праблемы працоўнага, маральнага выхавання дзяцей узняты ў зборніках апавяданняў пісьменніка "Сябры", "Залатыя рукі", аповесці "Гаворыць Масква". Цэнтральнай тэмай яго творчасці стала



*З жонкай Верай Ігнатаўнай. 1979 г.*



*Алесь Якімовіч з членамі літаратурнага гуртка Мінскага электратэхнікума сувязі. 1950-я гг.*







*Максім Танк, Алесь Якімовіч (у цэнтры), Янка Брыль з пісьменнікамі ў Доме творчасці ў Каралішчавічах*



*Якімовіч Алесь і Крапіва Кандрат сярод землякоў. Уздзенскі раён. 1958 г.*



*Алесь Якімовіч (сядзіць трэці злева) сярод беларускіх пісьменнікаў. 1959 г.*




тэма пакутлівага, абяздоленага дзяцінства (апавяданне "Новы год", аповесць "Базылёў курган").

У 1971 годзе Алесь Якімовіч піша аповесць "Кастусь Каліноўскі". У аповесці ў той час, як пісала крытыка, правільна была асэнсавана эпоха, якая папярэднічала паўстанню, і падзеі самога паўстання. Алесю Якімовічу няпроста было зрабіць гэта, бо існавалі розныя думкі і меркаванні гісторыкаў наконт гэтай гістарычнай падзеі. Але, зрабіўшы аналіз таго складанага і драматычнага часу, пісьменнік грунтоўна разабраўся ў характары паўстання. Ствараючы вобраз Кастуся Каліноўскага, Алесь Якімовіч звярнуўся да фактаў біяграфіі гэтага мужнага змаганца. Чытачы даведваюцца пра вёску Мастаўляны, дзе нарадзіўся і жыў у гады дзяцінства Кастусь Каліноўскі, пра Якушаўку, куды потым пераехала іх сям'я, пра яго старэйшага брата Віктара, які актыўна ўплываў на фарміраванне рэвалюцыйных поглядаў Кастуся, пра тое, як балюча крануў сэрца Кастуся Каліноўскага пакутны лёс прыгонных…

Асобную старонку творчай біяграфіі пісьменніка складае яго плённая дзейнасць у галіне мастацкай апрацоўкі беларускіх народных казак, у развіцці жанру літаратурнай казкі. Асабліва шырокую вядомасць набылі вершаваныя казкі "Каваль Вярнідуб", "Вераб'ёвы госці", у якіх наследаванне традыцый вуснай народнай творчасці відаць і ў выяўленні ідэі, і ў сюжэтна-вобразнай структуры, і ў мове твора.

Алесь Якімовіч - складальнік кнігі для чытання ў 2-м класе "Роднае слова", а таксама артыкулаў па пытаннях развіцця дзіцячай літаратуры. Нямала зроблена ім і ў галіне перакладу.

***Паводле СМІ.***



№ 4 (108) 24 СТУДЗЕНЯ 2024 г.
наша СЛОВА.pdf

Ежы Хопен

# Гародна, няспраўджаная рэзідэнцыя Станіслава Аўгуста

*Ад перакладчыка: Вядомы мастак, рэстаўратар, гісторык мастацтва і дацэнт Віленскага ўніверсітэта Ежы Хопэн (Jerzy Hoppen, 1891-1969), увосень 1938 г. гасцяваў у гаспадыні маёнтка Гародна Ады Кандратовіч, вывучаў палац і напісаў цікавы нарыс у віленскай газеце "Слова". Сёння ад маёнтка застаўся толькі знявечаны парк, у якім, аднак, жыве шляхетны дух старых часоў, і таму сёння Гародна для мяне - можа самае ўлюбёнае месца гістарычнай Лідчыны.*

Сярод нашых шматлікіх гістарычных сядзіб самай прыгожай і захаванай з'яўляецца драўляная сядзіба-палац у Гародне. Яго самая галоўная асаблівасць - гэта стыль часоў караля Станіслава, які выпраменьвае кожная дэталь архітэктуры. Гэта яшчэ адзін доказ уплыву караля Станіслава Аўгуста на галіну мастацтва. На жаль, Гародна яшчэ малавядомае, недаследаванае і навукова не апісанае. І гэта пры тым, што яно несумненна звязана з Варшаўскім замкам і Лазенкамі. Стылёвая блізкасць інтэр'ераў, несумненна, пацвердзіла б гэта пры бліжэйшым вывучэнні.

Вялікі аднапавярховы дом, пабудаваны на невысокім узгорку, з велічным ганкам, манументальнымі сходамі і высокай пад'язной дарожкай, проста ўражвае сваім выглядам.

Гародна знаходзіцца ў ваколіцах Ліды - за 25 кіламетраў і за 12 кіламетраў ад Эйшышак. Некалі яно было спадчыннай уласнасцю Саламеі княгіні Радзівіл з Сапегаў і ў 1762 г. была падаравана ёю Людвіку Скуміну Тышкевічу. Людвік Скумін Тышкевіч - пісар Вялікага Княства Літоўскага, польны гетман і маршалак сваёй рэзідэнцыяй абраў Горадна. Ён быў жанаты з Канстанцыяй княжной Панятоўскай, дачкой Казіміра Панятоўскага, брата караля Станіслава Аўгуста.

Атрымаўшы абяцанне прыезду караля, Тышкевіч пачаў рыхтавацца да высокага госця. За адзін год ён пабудаваў дом і драўляную сядзібу, якую з пышнасцю аздобіў. Мясцовая легенда кажа, што дзеля гэтага ў Горадна выклікалі майстроў, а ўбранне інтэр'еру прывезлі з Парыжа.

З-за ўнутрыпалітычных падзей каралеўскі візіт не адбыўся.

Памёр Тышкевіч у 1808 г. Пасля яго Гародна перайшло да яго дачкі Ганны, у першым шлюбе яна была за гр. Аляксандрам Патоцкім, у другім за гр. Дуніным-Вансовічавам[1]. У 1856 г. Ганна Дунін-Вансовіч аддала Гародна свайму сыну ад першага шлюбу графу Маўрыцыю Патоцкаму. І праз сто гадоў пасля пабудовы дома гр. Маўрыцы выявіў, што ён усё яшчэ знаходзіцца ў добрым стане, але зрабіў некаторыя папраўкі і рамонты. Памяняў шалёўку і паправіў прасеўшыя сцены. Нажаль, прыгожыя падлогі ўжо згнілі, як і шоўк, які пакрываў сцены. Аднак ляпніна і пазалота захаваліся.



**Палацавы комплекс у Гародна, малюнак Напалеона Орды, на малюнку: палац, капліца, флігель**

Гародна захавалася да нашых дзён і зараз з'яўляецца маёмасцю жонкі генерала Кандратовіча.

Акрамя выдатнага жылога дома гараднenскі двор складаецца яшчэ з найпрыгажэйшага парку і капліцы, не кажучы пра таксама старыя, але звычайныя гаспадарчыя пабудовы.

У парку маецца штучны стаў у форме вельмі выцягнутага простакутніка, пры канцы става - вялікая альтанка на мураваных калонах.

Жылы дом - цудоўны ўзор станіславаўскага стылю (часоў караля Станіслава Панятоўскага - *Л. Л.*). Спераду ён мае высокі пад'езд і ганак на калонах. Знутры прасторны, з высокай столлю, з камінамі той эпохі, кафлянымі печамі таксама з XVIII ст., гербам Тышкевічаў

[1] Гл: Лаўрэш Леанід. Ганна Патоцкая, пісьменніца, мемуарыстка, мастак // Наша Слова. № 15 (1530), 14 красавіка 2021; Лаўрэш Леанід. Лідскія пісьменніцы XVIII-XIX ст. // Ад лідскіх муроў. № 10. Ліда. 2022. С. 478-490; Графиня Анна Патоцкая. Мемуары. 1794-1820. Москва, 2005.








***Палац у Гародна да 1939 г.***







***Супрапорты ў палацу Гародна***

"Лялівай". Сцены, калісьці абабітыя ядвабнай тканінай, сёння вы-клеены шпалерамі, але захавалі рамы і ліштвы, на якіх трымалася ядваба. Дзверы, супрапорты (пластычна апрацаваны ўчастак сцяны паміж дзвярной рамай і столлю, запоўнены рэльефам ці жывапісам - *Л.Л.*) і рамы ад люстраў таксама добра захаваліся. Усё гэта сніцарскай работы, выканана з дрэва ці з адмысловай масы, мае белы колер з пазалотай і нясе на сабе адбітак таленавітага майстра і архітэктара. Невядома, ці сапраўды яны паходзяць з Парыжа, як кажа паданне. Ва ўсякім разе, гэта работа не нейкага правінцыйнага майстра, а таленавітага і высока-культурнага мастака. Пано, міфалагічныя сцэны і алегорыі, якія вянчаюць рамы люстэркаў, інтэграваныя ў супрапорты, поўныя стылёвай экспрэсіі. У іх ёсць нейкая вытанчанасць і лёгкасць, ад іх вее добрым густам і салоннай атмасферай.

Аднак Першая сусветная вайна не пашкадавала Гародна. Удава генерала расказала даследчыку, што ў гэты час была вывезена ў Германію ўся бронза. На дзвярах засталіся сляды ад ранейшых клямак і акуццяў, а на прыгожым мармуровым каміне - толькі адтуліны ад цвікоў, якімі была прымацавана дэкаратыўная бронза. Аднак над камінам захаваўся медальён з залатой аздобай з выявай галавы Станіслава Аўгуста. З мэблі немцы пакінулі некалькі крэслаў і фатэляў у стылі Людовіка XVI і столікі пад люстрамі.

Варта звярнуць належную ўвагу на тое, што цяперашнія гаспадары Гародна ў поўнай меры ўсведамляюць каштоўнасць гэтага помніка і беражліва яго даглядаюць. Усё ўтрымліваецца з незвычайным піетэтам да твораў мастацтва.

Каля дома стаіць вялікая мураваная капліца, а дакладней касцёл у т. з. стылі Віленскага барока. Верагодна, капліца мае больш ранняе паходжанне і не мае нічога агульнага са станіславоўскім стылем. Яе фацыята (паддашак - *Л. Л.*) крыху трансфармавалася і мае ўверсе сігнатурку (невялікая вежачка - *Л. Л.*). На фасаднай надбудове - выраблены з тынку барэльеф з трыма гербамі фундатараў, сярод якіх, аднак, няма "Лялівы" Скуміна-Тышкевіча.

Унутры добра захаваўся багаты алтар і вельмі цікавыя хоры, абапёртыя на слупы, якія нагадваюць такія ж у віленскім касцёле Св. Духа. Падлога з цэглы. Стыльная фурнітура ў стылі ракако на дзвярах. Гэтая капліца, несумненна, мае агульныя рысы з архітэктурай віленскіх касцёлаў.

Увесь гэты прыгожы маёнтак, які складаецца з сядзібы, старых каштанавых алей у парку, мураваных лаў і да нашага часу рэгуляванага става з альтанкай, адлюстроўвае эпоху, ахінутую моцным захапленнем да асобы караля, з якім гэтак арганічна асацыявалася прыгажосць.

*Jerzy Hoppen. Horodno, niedoszla rezydencja Stanislawa Augusta // Slowo. № 271 (5195). 3 pazdziernika 1938.*

***Пераклад і каментаванне Леаніда Лаўрэша.***



№ 4 (108) 24 СТУДЗЕНЯ 2024 г.
наша СЛОВА.pdf

*Ежы Хопен*

# Рэспубліка ў Паўлаве

У 1767 г. віленскі ксёндз-канонік Павел Ксаверый Бжастоўскі набыў маёнтак Мерач, што каля Тургялёў над рэчкай Мерачанкай і пабудаваў тут двор, які ў свой гонар назваў Паўлава. Хутка Паўлава стала свайго роду вялікай адметнасцю, бо канонік Бжастоўскі заснаваў тут рэч паспалітую (ці рэспубліку - *Л. Л.*) і надаў правы грамадзян гэтага ўтварэння сялянам - сваім падданым, звольніўшы іх ад паншчыны. Рэч паспалітая кіравалася па свайму праву, мела вышэйшую і ніжэйшую палаты свайго парламента, уласную міліцыю, сваю манету і была месцам, якое абаранялі валы і равы з гарматамі. Сваіх падданых Бжастоўскі падзяліў на чыншавых, баяраў і цяглых. Раней нададзеную сялянам канстытуцыю ён яшчэ раз пацвердзіў у 1791 г.

Вяскоўцы атрымалі зямлю ў вечнае дзяржанне. Удасканаліўшы гаспадарку, Бжастоўскі заснаваў тут школу, у якой выкладалася чытанне, пісьмо, арыфметыка, рэлігія, геаграфія краю і асновы сельскай гаспадаркі.

У Паўлаўцы была вайсковая дысцыпліна. Усе сяляне былі апрануты ў мундзіры: *"У жупаны з мясцовага сукна светлага колеру і шапкі з чырвоным верхам, абкладзеныя чорным футрам барана"*.

На пасяджэнне ў парламент, на набажэнства і ўрачыстасці сяляне з'язджаліся ў мундзірах і, падтрымліваючы парадак, ішлі парамі.

Згодна са словамі самога Бжастоўскага, які апісаў сваю рэч паспалітую ў "Генеалагічнай ведамасці пра дом Бжастоўскіх", выдадзенай ў Вільні з 1776 г., у Паўлаве панаваў нязвыклы парадак, а людзі цешыліся дабрабытам. Знікла п'янства, лянота, пустыя размовы і лаянка, сяляне пачалі цікавіцца справай і развіццём гаспадаркі. Селянін вызваліўся ад прыгнёту, выкліканага станам залежнасці ад свайго пана, і стаў свядомым грамадзянінам - вольным і радасным! Так, выглядала Паўлаўская рэч паспалітая, слаўная сваёй творчасцю і сваёй арганізацыяй не толькі ў свой час, але і сёння.

Постаць самога Бжастоўскага як быццам несумненна выломваецца сваім лібералізмама з шэрагу людзей паловы XVIII ст., але яна не пазбаўлена і шэрагу рысаў, якія міжволі прымушаюць глядзець на яго крытычна. Пра што мы можам прачытаць ў артыкуле Ю. Обста пра Паўлава ў "Літве і Русі" за 1913 г.

Бо па-праўдзе, гэта быў "сапраўдны пан", шляхціц, не пазбаўлены ўсіх заганаў свайго часу, чые амбіцыі, на шчасце, выліліся ў сферу культуры і рэфарматарства. Ён стварыў прыгожую для свайго часу справу і кіраваўся высокай ідэяй. Яго грунтоўная адукацыя, часткова атрыманая за мяжой, дала яму выдатную агульную культуру, а ліберальныя плыні, які дамінавалі ў Еўропе таго часу, сфармавалі яго такім чынам, што ён апярэдзіў свой час. І ўсё ж Паўлава таго часу, гэта рэч паспалітая (рэспубліка, *Л.Л.*) у Рэчы Паспалітай і сёння цяжка пазбавіцца ад уражання, што ў яго існавала нейкая цяга да свавольства.

Пасля паўстання пад кіраўніцтвам Касцюшкі, у якім прыняла ўдзел і міліцыя Паўлава, якое два тыдні мужна абаранялася ў сваёй цвердзі, Бжастоўскі пакінуў краіну і адправіўся ў Дрэздан. Доўга не вяртаўся, а толькі перапісваўся з паўласкімі сялянамі, якія прыслалі яму пярсцёнак з надпісам: "Сябар чалавецтва", наўзамен ён прыслаў ім некалькі пярсцёнкаў з надпісам "Лепшы гаспадар". Гэты абмен чуласцямі, аддае сентыменталізмам, і ў ім няма рэальнай дапамогі, ён важны толькі для гісторыі, і гэта паказвае хібы Бжастоўскага. Здаецца, ён знудзіўся сваім Паўлавам, а, магчыма, быў у дэпрэсіі з-за падзелаў краіны.

У Паўлава ён больш не вярнуўся і прадаў яго графу Машынскаму. У 1824 г. знаходзім Бжастоўскага ўжо ў Рукойнах на пасадзе віленскага архідыякана. У 1827 г. тут закончылася яго жыццё.



***Мастак Ф. Смуглевіч. Наданне вольнасці сялянам Паўлава,*** *1795 г.*

Сядзіба ў Паўлава размешчана так, што з трох бакоў яе атачае рэчка Мерачанка, а з чацвёртага боку яна мяжуе з гасцінцам, які злучае Тургелі







*Мастак Ф.К. Фабр. Павел Ксаверы Бжастоўскі, 1797 г.*

з Яшунамі. Такім чынам двор ад пачатку быў часткова ўмацаваны праз саму мясцовасць. Валы і равы знаходзіліся з боку гасцінца і з боку Тургялёў. Рэшкі рова і не вельмі высокага вала, захаваліся і сёння. Увесь чатырохкутнік двара меў дзве вежы ці нейкія больш высокія абарончыя збудаванні, сляды якіх таксама можна яшчэ знайсці. У сярэдзіне чатырохкутніка стаяў першапачатковы аднапавярховы палац з двухпавярховай надбудовай пасярэдзіне. Побач з палацам знаходзілася капліца, якая сёння не існуе, а таксама яшчэ адзін асобны дом і гаспадарчыя пабудовы. Паводле гістарычных звестак, у межах абарончага чатырохкутніка таксама знаходзілася мястэчка ці паселішча для сялян. Сёння ад гэтых сялянскіх дамкоў нічога не засталося, а вёска Паўлава стаіць адразу за чыгуначнай станцыяй, выцягнуўшыся ўздоўж дарогі ў бок Яшуноў.

У прыватнай калекцыі існуе партрэт Бжастоўскага на фоне Паўлава, дзе даволі дакладна прамаляваны ўсе тагачасныя будынкі. Але, толькі маючы гэты партрэт, мы не можам нешта істотнае сказаць пра тагачаснае Паўлава.

Сёння Паўлава складаецца з:

- палаца XIX ст. з калонным ганкам спераду і ззаду будынка і з бакавымі крыламі ў стылі класіцызму;
- гаспадарчага будынка са скляпеністым цокальным паверхам, які стаіць уздоўж дарогі ад выязной брамы да палаца;
- мураванага будынка ў форме падковы, які можа быць астаткам ранейшага дома, які стаяў асобна, ці, што яшчэ верагодней, астаткам былых казарм і кардэгардыі;
- вельмі цікавага васьмікутнага свірана ці скарбца, у якога 4 бакі прамыя, а чатыры - увагнутыя. На гэтым будынку двухсхільны, прыгожа выгнуты дах з купалам у стылі ракако XVIII ст. Гэты будынак, без сумнення, стаіць з часоў Бжастоўскага.

Недалёка ёсць руіны нядаўна спаленага хлява, яго муры складаюцца з цэглы XVIII ст.

За палацам знаходзіцца прыгожы парк з нязменнай ліпавай алеяй і рэчкай Мерачанкай. У парку бачны зарослыя дрэвамі старыя валы, магчыма гэта "цытадэль", іншымі словамі, бачны нейкія пагоркі і равы сэнс якіх цяжка разабраць на мясцовасці.

На тэрыторыі сучаснай сядзібы не бачна слядоў былой капліцы. Дзе яна стаяла, невядома. Нават, як гэта звычайна робіцца, на яе месцы не паставілі крыжа.

Як мы ўжо згадалі, пасля Бжастоўскага Паўлава перайшло да графа Машыньскага, потым было прададзена графу Шуазель-Гуф'е. Апошнім часам яно належала с. п. Вітольду Вагнеру, які быў замілаваны ў мінулае сваёй сядзібы і клапаціўся пра захаванне будынкаў у першапачатковым выглядзе. У сучасным палацы на тынкоўцы аднаго з пакояў першага паверха, ёсць высечаная мулярам дата - 1859 г. Верагодна, гэта звязана з работамі, якія праводзіліся ў палацы. Стыль палаца адпавядае гэтай даце.

Вітольд Вагнер збіраў інфармацыю пра Бжастоўскага і Паўлава. Пасля яго застаўся стары малюнак жаўнера са штандарам, на якім бачны мальтыйскі крыж і літара "Р". Пад рысункам маецца французскі верш, у якім сказана, што у 1767 г. былі вызвалены сяляне і пасля гэтага яны сталі добрымі гаспадарамі.

У пошуках слядоў надмагілля Бжастоўкага, мы наведалі Рукойны з касцёлам, але нічога там не знайшлі. У XIX ст. касцёл знаходзіўся ў руках праваслаўнага духавенства, якое, верагодна, не ацаніла каштоўнасць памяці пра гэтага чалавека. Вядома, што памятная дошка па Бжастоўскаму была ўмураваная побач з вялікім алтаром. Пахаванне Бжастоўскага прайшло з вялікай помпай.

Верагодна апошнія гады жыцця Бжастоўскі правёў не ў плябаніі касцёла, а ў сядзібе Рукойны, якая месціцца на адлегласці 1,5 км ад мястэчка. У сядзібе маюцца старыя і вялізныя рыбныя ставы, якія ён нібы заснаваў. Таксама захаваліся руіны невялікай хаткі, пабудаванай часткова з палявога каменю, а часткова з цэглы. Мясцовае насельніцтва сцвярджае, што гэта ёсць рэшткі нейкай капліцы і таму туды ходзяць маліцца пабожныя жанчыны. Можа па звычцы, а можа з-за старога культу Бжастоўскага, яны там моляцца за душу "Сябра чалавецтва".

*Jerzy Hoppen. Rzeczpospolita Pawlowska // Slowo. 1938. № 334.*

***Пераклад і каментаванне Леаніда Лаўрэша.***





# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## *Паміж генацыдам і апакаліпсісам - крыху міру: Гурны, Дамейка Леа-Пласа, Нікалаеў, Харкевіч; Чарнобыль Чына - правадыр апачаў*

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-52 (53-104) (2023); 1-3 (105-107) за 2024 г.)*

Індзейцы Паўднёвага Захаду асабліва блізка стаяць да "ядзернага пытання" ў розных яго аспектах.

**ЧАРНАБАЛІЗУЮЧЫ КАРЭННУЮ АМЕРЫКУ**

Бюлетэнь Камітэта абароны Леанарда Пелціера "Дух Шалёнага Каня" перадрукаваў артыкул Valerie Taliman, навахскага журналіста-эколага, у якім сцвярджаецца, што праграма "Кантраляванага Узнаўляльнага Сховішча" радыяцыйных адыходаў, прапанаваная індзейскім плямёнам ЗША, падзяліла грамады на дзве канфрантуючыя групы. Для бедных рэзервацый сотні тысяч долараў і іншыя абяцаныя даброты з'яўляюцца сапраўднай прынадай. "Мы маглі б зрабіць мільёны долараў толькі на тым, каб вывучыць прапанову", пераконвае племянны старшыня апачаў мескалера Уэндэл Чына, чыё племя было першым, якому прапанавалі субсідыі КУСа. Паведамленні з Мескалера, штат Нью-Мексіка, сведчаць, што большасць у племені супраць гэтай ідэі, але племянны савет - які заключыў здзелку з прадстаўнікамі федэральнага ўрада ў сакрэце - прасоўвае

Mr Wendell Chino
c/o Mescalero Apache
Mescalero, NM 88340

October 25, 1992
Gomel

Dear Mr Chino:

We know you as one of the outstanding Native Americans and the leader of the Mescalero Apache Tribe. We respect your work for American Indian progress.

Your name was mentioned in the Soviet press. We wrote about you in our recent article published in the Byelorussian magazine Byarozka.

The Byelorussian - American Indian Society, an autonomous, non-profit research and friendship organization, was founded in 1987. Our intention was to bridge small tribal and tribalist communities in the Americas and Belarus. Now we have many friends among Native Americans, including the Western Apache, and we hope Byelorussian - Mescalero Apache relations will be develop too.

We would like to know more about your Tribe, its administration, economics and culture.

We wish your people prosperity.

We are a non-Western and 'non-White' group and we are especially interested in the Native Fourth World's solidarity.

We will highly appreciate your answer.

Your Native American support is very important to us.

Sincerely yours,

(Mr) Ales Simakou
Executive Secretary
Byelorussian - American Indian Society
P.O.Box 114
Gomel 246049
Belarus

***Letter to Chino (Mescarelo Apache leader), Mescarelo, New Mexico 1992-10-25 (version 1)***

ЧЕРНОБЫЛЬ ЧИНО - ВОЖДЬ АПАЧЕЙ

Программа "Контролируемого восстанавливаемого хранилища" радиационных отходов, предложенная индейским племенам США, разделила общины на две конфронтирующие группы. Для бедных резерваций сотни тысяч долларов и прочие обещанные блага являются настоящей приманкой. "Мы могли бы сделать миллионы долларов только на том, чтобы изучить проблему", убеждает племенной председатель апачей мескалеро Уэнделл Чино, чей народ был первым, которому предложили субсидии КВХ. Сообщения из Мескалеро, штат Нью-Мексико, свидетельствуют, что большинство в племени против этой идеи, но племенной совет - заключивший сделку с представителями федерального правительства в секрете - продвигает план, который обещает принести около 300 000 долларов за изучение предложения. Лидеры племенного совета характеризуют своих оппонентов, называющих их председателя Чернобылем Чино, как "диссидентскую, радикальную политическую группу".

Алесь Симаков

***Чернобыль Чино - вождь апачей (версія інфармацыі Інфармацыйнай службы БІТ, якая ёсць і на беларускай мове)***

план, які абяцае прынесці каля 300,000 долараў за вывучэнне. Лідары племяннога савета характарызуюць сваіх апанентаў, некаторыя з якіх называюць іх старшыню Чарнобылем Чына, як "дысідэнцкую, радыкальную палітычную групу".

*(А. Сімакоў, Інфармацыйная служба БІТ 2.08.1993, № 36.)*

Сотні тысяч долараў толькі за вывучэнне пытання пра магчымасць стварэння сховішча для адходаў. Выпуск "Spirit of Crazy Horse" (July-August 1995) атрыманы намі ад Камітэта 12.08.1995 г.

Параўнанне паміж атамнай энергетыкай у СССР і Індзейскай Амерыцы было ў артыкуле Валеры Таліман ""Chernobyl Chino's" MRS: Mescaleros Apaches in Classic Economic Blackmail and Environmental Racism Struggle" (Voces Unidas, 1992, № 1).

Навахскую дзяячку Валеры Таліман можна было бачыць у розных штатах як аўтара / рэдактара (у прыватнасці "Indian Country Today"), што заслужыў узнагароды, "стратэга па камунікацыях", эксперта ў пытаннях аховы навакольнага асяроддзя, сацыяльнай справядлівасці і правоў чалавека. Яна была дырэктарам па камунікацыях Індзейскага прававога рэсурснага цэнтра ў Хелене (Мантана). У Альбукерку (Нью-Мексіка) яна прэзідэнт "Three Sisters Media" (выдавецкія паслугі, сацыяльныя сеткі і сувязь з грамадскасцю).

У час пандэміі COVID-19 Таліман "ад імя і па даручэнні" былога губернатара Нью-Мексіка, прадстаўніка ЗША ў ААН і кіраўніка Мінэнегра Біла Рычардсана







В. Пав. сп. Сімакоў!

Пра Вашую просьбу я не забыў, але быў вельмі заняты.

[illegible], што [illegible].

Артыкул аб Чарнобылю хутка будзе друкавацца.

Вітаўт Кіпель

22/X/90

***Letter from Vitaut Kipel (Кіпель) 1990-10-22 (адзін з трох атрыманых). We sent some art material for an article on Chernobyl. "Артыкул аб Чарнобылю хутка будзе друкавацца"***

(1947-2023, часткова лацінаамерыканец) і навахскага прэзідэнта Петэрсана Заха праз адпаведны фонд дапамагала атрымаць неабходныя матэрыялы і абсталяванне, каб абараніць жыцці і здароўе наваха.

Наступнае паведамленне па тэме "Апачы і атам" арыгінальнае тым, што ўзятае аўтарам непасрэдна з перадачы "Бі-Бі-Сі" на англійскай мове:

### АПАЧЫ НА РЭФЕРЭНДУМЕ: ПЕРАМОГ ПРЭЗІДЭНТ "ЧАРНОБЫЛЬ" ЧЫНА

Сусветная служба Радыё Бі-Бі-Сі паведаміла 31 траўня, што племя апачаў мескалера згадзілася размясціць на тэрыторыі сваёй рэзервацыі ў Нью-Мексіка адходы амерыканскіх атамных электрастанцый. Лідары племені здолелі зацікавіць людзей шматмільённымі прыбыткамі ад прамых выплат і стварэння рабочых месцаў. Засталося шмат нязгодных, якія абвінавачваюць кіраўніцтва ў маніпуліраванні грамадскай думкай на рэферэндуме і здабыванні грошай для сябе. Рэзервацыя Мескалера лічыцца адной з багацейшых у ЗША, але жыццёвы стандарт і даходы насельніцтва разглядаюцца як дастаткова нізкія.

Незадоўга перад тым у Канадзе недалёка ад індзейскіх паселішчаў запрацаваў завод па перапрацоўцы высокасярністага газу. Пратэст індзейцаў кры, карэнных жыхароў раёна возера Любікон, якія змагаюцца за права на ўласную зямлю, не быў улічаны, у выніку чаго ствараецца дадатковая пагроза іх спосабу жыцця і здароўю.

*(Алесь Сімакоў, выканаўчы сакратар Беларуска-індзейскага таварыства, 31.05.1995.)*

**Літ.:**

*1670 Напярэдадні міжнароднага кангрэса "Вынаходнікі свету - супраць ядзернай зброі" казахстанскія і японскія журналісты арганізавалі тэлемост "Сяміпалацінск - Хірасіма", галоўным індыкатарам якога стаў савецкі антыядзерны рух "Невада-Сяміпалацінск" / на зд.: Олжас [Алжас] Сулейменаў і Уладзімір Познер: фота І. Будневіча і А. Паўскага // Чырвоная змена. 1990. 26 чэрв. (Алма-Ата; казах і індзеец у эмблеме руху.)*

*2957 Пернікаў У. "Не" - ядзерным арсеналам! // Звязда. 1995. 10 жн.*

*4947 Баранкевич А. Кто сказал, что теперь у народа нет врагов?: "ядерные" махинаторы сбыли за бесценок зарубежным дельцам 500 тонн оружейного переработанного урана (Все - на продажу?) // Народная газета. 1997. 11 дек. С. 3. (Инки.)*

*5926 Гречаник Н. Н. Ядерные войны в древности: Содом и Гоморра были уничтожены атомными взрывами // Секретные исследования. 1999. № 8 / 16. Авг. С. 8-9.*

*1176 Громыко Ан. А., Ломейко В. Б. Новое мышление в ядерный век. М., 1984.*

*4934 Цель агентства - мирный атом [7 вопросов на неделе: Кто контролирует ядерное оружие? Вопрос О. Николаева, Витебск] // 7 дней. 1998. 5 дек. С. 9.*

*7607 Костюкович А. Атомный голос в борьбе за славянский мир // Имя. 1999. 25 янв. (Exclusive; Кл. сл.: музыка индейская.)*

*10521 Хадневич Ю. Особенности освещения чернобыльской проблематики в региональной прессе // Рэгіянальная прэса: традыцыі, вопыт, перспектывы: матэрыялы Рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі / рэдкал.: С. В. Дубовік (адк. рэд.) і інш. Мн., 2006. С. 100-103. ("Што датычыць радыяцыі, то апошнія з тульгаўчан не прызнаюць яе і лічаць, што чалавек павінен скласці галаву там, дзе нарадзіўся. Удзячны раён уладзе, што праяўляе клопат аб іх, ёсць электрычнасць, тэлефон, пенсіі дастаўляюць своечасова. Медыцынскім абслугоўваннем таксама не абдзелены. <...> Два разы ў тыдзень прыязджае аўталаўка... А што яшчэ для пажылых людзей патрэ-бна?" ("Апошнія з магікан". - У. Сямёнаў. - "ЛС". - 11.01.2006)". Цытата Ю. Хадневіч з "Ленінскага сцяга" (Хойнікі) у канцы яе артыкула.)*

*7409 Алексіевіч С. Чарнобыльская малітва: хроніка прышласці. Мн., 1999. (Пераклад Міколы Гіля; дакументальная аповесць датуецца 1986-1996 гг., але былі і пазнейшыя рэдакцыі; "Нядаўна пахаваў сябра, з якім быў там. Ён памёр ад раку крыві. Памінкі. Па славянскім звычаі выпілі, закусілі, разумееце. І пачаліся гаворкі, да поўначы. Спачатку пра яго, пра адышоўшага. А потым? А потым зноў пра лёс краіны і пра ўладкаванне Сусвету. […] Пра Чарнобыль. Цяпер ужо розныя здагадкі... Адна з іх, што іншапланецяне ведалі аб катастрофе і дапамаглі нам, другая - гэта быў касмічны эксперымент, і праз нейкі час пачнуць нараджацца дзеці з геніяльнымі здольнасцямі. А можа, беларусы знікнуць, як некалі зніклі іншыя народы: скіфы, хазары, сарматы, кімерыйцы, хуастэкі? Мы - метафізікі... Жывём не на зямлі, а ў марах, у гаворках. Да будзённага жыцця нам трэба нешта дадаць, каб яго зразумець. Нават побач са смерцю..."" (Віктар Латун, фатограф).)*





*7798 Алексієвич С. Чорнобиль: хроніка майбутнього / пер. і післямова О. Забужко. К., 1998. (Київ: Факт; "Монолог про те, що до повсякденного життя треба чогось додати, щоб його зрозуміти" (Віктор Латун, фотограф): "А може, білоруси щезнуть, як колись були щезли інші народи: скіфи, хозари, сармати, кіммерійці, хуастеки?"; у 2016 г. пераклад Забужко выдадзены пад зменeным загалоўкам: "Чорнобильська молитва. Хроніка майбутнього".)*

*10270 Алексиевич С. Чернобыльская молитва: хроника будущего // Неман. 1997. № 3. С. 8-74; № 4. С. 41-102.*

*7445 Алексиевич С. Чернобыльская молитва: (хроника будущего) // Дружба народов. 1997. № 1. С. 8-102.*

*7446 Алексиевич С. Чернобыльская молитва: (хроника будущего). М., 1997.*

*7447 Алексиевич С. Чернобыльская молитва: хроника будущего // Алексиевич С. Цинковые мальчики; Зачарованные смертью; Чернобыльская молитва. М., 1998.*

*10141 Alexievich A. Chernobyl prayer: a chronicle of the future / trans. A. Gunin and A. Tait. [London], 2016. (Наяўнасць "хуастэкаў" у выданнях "Чарнобыльскай малітвы" на дзясятках моў кожны раз трэба ўдакладняць: толькі частка перакладаў рабілася з версій, дзе ў пераліку народаў, што вымерлі, былі хуастэкі - якія не падыходзяць як падобны прыклад, у адрозненні ад многіх іншых індзейскіх народаў, якія насамрэч зніклі.)*

*7769 Alexievich S. Voices from Chernobyl: chronicle of the future / trans. A. W. Bouis. London, 1999.*

*7823 Alexievitch S. La supplication: Tchernobyl, chroniques du monde apres l'Apocalypse / trad. du russe par G. Ackerman et P. Lorrain. Paris, 1998.*

**ГУРНЫ Уладзімір** - парашутыст, філосаф, педагог, чэмпіён свету ў акрабатычных скачках (каманднае першынство) у "сталіцы чэрокі" Талекуа (1972). Заслужаны майстар спорту і трэнер СССР, заслужаны дзеяч фізічнай культуры Беларусі. Ён таксама член Расійскага філасофскага таварыства, аўтар кнігі "Тэорыя развіцця інтэлекту" ("Теория развития интеллекта", "Theory of intelligence development").

Нарадзіўся ў сяле Тоцкае ў Арэнбургскай вобласці, рос у Менску без бацькі: маці вярнулася на радзіму з эвакуацыі. З ранняга дзяцінства яго цягнула да гімнастыкі, акрабатыкі… скончылася ўсё прафесійнай акрабатыкай у небе - многія тысячы скачкоў, сведкамі якіх былі і індзейцы.

Талекуа - сталіца двух федэральна прызнаных плямёнаў чэрокі, Нацыі чэрокі (Cherokee Nation) і Аб'яднанай групы індзейцаў чэрокі Кітува (United Keetoowah Band of Cherokee Indians). Па перапісе 2020 г. у Талекуа 30,0% "карэнных амерыканцаў" і 9,8% "лацінаамерыканцаў любой расы".

Сярод будынкаў і арганізацый у Талекуа найперш




***Vladimir Gurny - World Parachute Championships, Tahlequah, 1972. Владимир Гурный и 3 коллеги, чемпионат мира 1972 (Талекуа, Оклахома)***

варта назваць Нацыянальны музей Вярхоўнага суда Чэрокі (Cherokee National Supreme Court Museum) і Паўночна-Усходні дзяржаўны ўніверсітэт (Northeastern State University) - найстарэйшая ВНУ ў Аклахоме, а таксама адна з найстарэйшых ВНУ на захад ад ракі Місісіпі. Каля 25 працэнтаў студэнтаў адносяць сябе да індзейцаў. Ва ўніверсітэце значная ўвага да індзейскай лінгвістыкі. Чэрокскую ва ўніверсітэце можна вывучаць як другую мову, на ёй праводзяцца некаторыя заняткі.

Многія з чэрокі размаўляюць на роднай мове, ёсць школа "паглыблення ў мову чэрокі", для вучняў ад дашкольнага ўзросту да васьмікласнікаў. У свой час чэрокі адрозніваліся ў лепшы бок ад у цэлым амерыканцаў па здольнасці чытаць - дзякуючы іх роднай мове і іх асветніку Секвоі.

Яшчэ аднаго чалавека, які асацыіруецца з чэрокі, добра ведаюць у ЗША, але часам згадваюць і цытуюць і ў Беларусі - Уіл Роджэрс (1879-1935). Мы знайшлі яго імя і ў "Полымі" ў сувязі з яго нядаўняй смерцю - у выніку падзення самалёта на Алясцы. У канцы жыцця ён захапіўся авіяцыяй. Дарэчы, у "хроніцы" часопіса "Полымя" (у 1920-1930-х гадах у ім была "Хроніка культурнага жыцця замежных краін", "Зарубежная культурная хроника") сярод паведамленняў пра падзеі, звязаныя з індзейцамі, з'явілася і згадка новага рамана Эдны Фэрбер "Сімарон" *("Малюнак з барацьбы індыйцаў [індзейцаў] з белымі ў*




***Envelope from Ken Masters postmark Tahlequah 1991-08-26. Штэмпель - Талекуа, у зваротным адрасе - Джэй (Jay, Oklahoma)***

